Жыве Беларусь!



Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№43 (1060) 2 сакавіка 1995 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 558399 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.



*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

## Поголовье "подкосили" корма

***По информации Министерства статистики, поголовье крупного рогатого скота в Беларуси на 1 февраля составило 4525,5 тысячи голов, или на 9% ниже, чем на эту дату в 1994 году, в том числе коров — 1434,7 (на 2% меньше), свиней — 2351,6 тысячи (на 10% меньше).***

## "Наступает" инфекция

***Как сообщила агентству РИД заведующая противоэпидемическим отделением городского Центра гигиены и эпидемиологии Светлана Кретова, за январь текущего года заболеваемость острыми кишечными инфекциями по сравнению с аналогичным периодом прошлого увеличилась в Минске в 1,5 раза, дизентерией — в 2,8, сальмонеллезом — в 2,1, дифтерией — в 1,2, менингококковой инфекцией — в 2,3, корью — в 4,8, чесоткой — в 3,9, скарлатиной — в 1,8, ветряной оспой — в 1,8 раза.***

Отмечалось снижение заболеваемости вирусным гепатитом А на 60 %, коклюшем — на 90%, педикулезом — на 10%, краснухой — на 90%. Заболеваемость гриппом и ОРВИ осталась на уровне прошлого года.

Николай ВАСИЛЕВСКИЙ.

## Поляки тоже долго "запрягают"...

***Не только у нас, оказывается, подозреваемые и обвиняемые проводят в СИЗО долгие сроки в ожидании суда. Вот уже три года, как в Польше тянется дело об ограблении, совершенном тремя рэкетирами из Витебска.***

Эти молодые люди под страхом смерти отобрали у группы соотечественников машину, деньги и другие ценности. Только на днях прокурор Лодзи запросил у своих витебских коллег сведения о личностях грабителей. Ничего хорошего он о них не узнает: в местном досье за ними числятся кража, хулиганство и другие "подвиги". Так что "зоны" бандитам, вероятно, не избежать. Утешить их может лишь одно: условия содержания в польских местах лишения свободы, говорят, несколько получше, чем в наших. Хотя к "русским" там вряд ли благоволят...

Сергей СЕРГЕЕВ.

## И старость будет не в тягость

***Необычное сообщение буквально потрясло весь мир — некто Дорис Макдуэйн из штата Род-Айленд родила сразу 17 (!) детей.***

Пока счастливая мама находится с 12 мальчиками и 5 девочками в больнице на обследовании, "счастливый" папа ломает голову над тем, за какие шиши он будет кормить семейство.

Интересно, а случись такое в Беларуси?..

Кстати, "Народная газета" располагает снимком из зарубежной печати, подтверждающим данный факт, но, к сожалению, не можем его воспроизвести по техническим причинам.

## Погода и здоровье

***Неблагоприятные дни марта: 4, 6, 10, 15, 21, 25, 30.***



## Вкратце

***Совет Федерации в среду одобрил Закон "О восстановлении и защите сбережений граждан Российской Федерации", принятый Государственной думой 24 февраля.***

За него проголосовали 114 депутатов при одном воздержавшемся. Закон будет направлен Президенту России для подписания и обнародования.

❑

***В результате боев в Грозном разрушено жилых домов общей площадью 3,5 млн. квадратных метров, 37 школ, 14 поликлиник, 12 больниц, 100 километров тепловых сетей.***

В нынешнем году в столице Чечни предполагается построить 800 тыс. квадратных метров жилья, 15 школ.

❑

***Чеченский МИД заявил, что "фактически ни один процент гуманитарной помощи в Чечню не поступает".***

❑

***Таджикская оппозиция не признает результаты парламентских выборов, прошедших в республике 26 февраля.***

Один из лидеров оппозиции, заместитель председателя Движения исламского возрождения Таджикистана Акбар Тураджонзода, заявил, что в ходе выборов граждане республики были лишены свободного волеизъявления, так как в стране запрещены оппозиционная пресса, партии и движения.

❑

***Российские и грузинские пограничники приступили с начала недели к патрулированию на вертолетах грузино-чеченской границы.***

Воздушное наблюдение за ситуацией на границе, отметил сотрудник пресс-центра, "ведется с целью предотвращения проникновения на территорию Грузии бандитских формирований из Чечни".

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи в среду упал на 26 пунктов по сравнению с торгами 28 февраля и составил 4499 рублей.***

МЕСТО ДЛЯ КУРЕНИЯ ЗАБАСТОВОК

Рисунок Олега ПОПОВА.

## ЕС предложил оказать Беларуси финансовую помощь в размере 75 миллионов ЭКЮ

***Состоялось заседание финансового органа Европейского Союза — Совета ЭКОФИН, на котором принято решение поддержать предложение ЕС об оказании финансовой помощи Республике Беларусь в размере 75 миллионов ЭКЮ (около 95 миллионов долларов США) для поддержки макроэкономической стабилизации и решения проблемы дефицита платежного баланса.***

По мнению Европейской комиссии, такое решение обосновано тем, что экономическая ситуация в Беларуси в последние месяцы значительно ухудшилась, и новая программа по выходу республики из кризиса, обсужденная с Международным валютным фондом, имеет необходимые и достаточные условия для достижения макроэкономической стабилизации и структурной перестройки в стране.

Юрий АЛЕКСЕЕВ.

## "Как по маслу" прошла организованная транспортной милицией республики операция "Дефицит"

***Когда-то "колбасными" и "мясными" называли поезда, идущие из Москвы в российскую глубинку. Теперь так, а если точнее — "сыро-масляными", называют поезда, которые держат курс из Беларуси в Россию.***

Что только не везут наши сограждане в надежде разжиться заветными российскими тысячами!

С целью охладить пыл продовольственных "коробейников" транспортная милиция провела операцию "Дефицит". Несколько дней подряд проводилась она в поездах, привокзальных буфетах и магазинах, вагонах-ресторанах. В результате сотрудники Гомельского ОВД на транспорте, например, задержали двух жителей Брестской области, которые пытались вывезти в Брянск 240 килограммов сливочного масла. 320 килограммов масла, 210 — сметаны и 50 — сыра вывезли бы минчанин С. и брестчанин Х., если бы не сотрудники оршанской транспортной милиции. Во время осмотра поезда N 28 Брест—Москва был задержан житель Кобрина Н., нигде не работающий, решивший сделать "бизнес" на плавленых сырках, которых в его багаже насчитывалось около 800 штук.

В этом же поезде ехали два жителя Бреста, собравшиеся вывезти в Москву различные продукты на сумму свыше трех миллионов рублей.

Светлана ЮЗИК.

## Железнодорожные билеты по единым тарифам

***С 1 марта на всех железных дорогах государств — участников Содружества и стран Балтии одновременно вводятся тарифы на пассажирские перевозки в поездах межгосударственного сообщения в швейцарских франках.***

Это решение принято Советом по железнодорожному транспорту СНГ. Теперь в пунктах продажи при оформлении проезда пассажиров по территории одного или нескольких государств СНГ и Балтии будет применяться межгосударственный тариф на весь путь следования и для билета, и для плацкарты в швейцарских франках. При следовании пассажира в поездах местного сообщения по Республике Беларусь стоимость билета независимо от принадлежности вагона определяется по внутреннему тарифу. Стоимость плацкарты определяется в зависимости от принадлежности вагона: при следовании в вагонах Белорусской железной дороги — по внутреннему тарифу, а при следовании в вагонах других дорог — по межгосударственному тарифу в швейцарских франках. Стоимость билета и плацкарты пересчитывается в белорусские рубли по курсу, ежемесячно объявляемому финансовой службой Белорусской железной дороги. Нововведение предпринято с целью решения проблемы убыточности пассажирского транспорта, в частности восполнения подвижного состава.

Игорь ПЕТРОВСКИЙ.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН, РИД.

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

# Больш пенсій вялікіх і своечасовых!

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Цяжка абвінаваціць дэпутатаў у папулізме толькі на той падставе, што час разгляду змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні" прыйшоўся на перыяд, блізкі да выбараў. Здаецца, нядаўна быў прыняты гэты акт, а жыццё высветліла, што ён патрабуе значнай карэкціроўкі. У такіх умовах, канешне, можна назваць папулізмам любую прапанову па павышэнню пенсій той ці іншай катэгорыі грамадзян, любое выступленне ў падтрымку тых, хто аказаўся у амаль жабрацкім стане.

Але ёсць і іншы бок праблемы. Дзе ўзяць грошы, каб дапамагчы ўсім, хто мае патрэбу? Нацыянальны даход не павялічыўся, а нават стаў меншым. Каб падняць пенсіі хаця б на тысячу рублёў у месяц для ўсіх пенсіянераў (а іх у рэспубліцы амаль 2,5 мільёна), трэба столькі ж забраць у актыўна працуючых. У тых, хто корміць і сябе, і дзяцей. Але ж ці будуць людзі працаваць ва ўмовах, калі ў іх большую частку забіраюць?

То ў адным, то ў другім выступленні ад мікрафонаў гучалі прыкладна такія думкі, што яскрава сведчыла: дэпутаты не жывуць на Марсе, яны стараюцца захаваць баланс паміж неабходнасцю і магчымасцю. Але ці ўдаецца гэта?

Засяродзім увагу на адным з ключавых рашэнняў па пенсіённаму закону, што было станоўча прагаласавана ўчора, — аб тым, каб "пералік пенсіі рабіўся штомесячна на падставе сярэдняй зарплаты ў Рэспубліцы Беларусь за перадпапярэдні месяц". Гэта прапанова Мікалая Крыжаноўскага пасля бурных спрэчак усё ж такі была прынята 160 галасамі пры прахадным бале 158.

Ужо сам па сабе вынік з мінімальнай перавагай сведчыць аб супярэчлівасці пытання. Аўтар рашуча падкрэсліваў у сваёй аргументацыі, што існуючая зараз сістэма налічэння пенсій кепская з той прычыны, што яно робіцца па выніках, вельмі далёкіх ад сучаснага моманту, і гэта, па сутнасці, абкрадае пенсіянераў, перакладае на іх асноўны цяжар ад інфляцыі. Прадстаўнікі Міністэрства сацыяльнага забеспячэння сцвярджалі, што прапанаваная сістэма не палепшыць становішча, а, наадварот, пенсіянеры не атрымаюць своечасова і тое, што маглі б атрымаць. Бо, па-першае, пенсіённы фонд проста не атрымае грошай, якія не паспеюць прыйсці ў вызначаны тэрмін, і, па-другое, велізарны дэфіцыт трэба будзе кампенсаваць крэдытамі, за якія непазбежна давядзецца разлічвацца грашыма тых жа пенсіянераў. А гэта дзесяткі мільярдаў рублёў.

"Трэба будзе на 2 працэнты павялічыць тарыфы ўзносаў на сацыяльнае страхаванне, — так пракаменціраваў наступствы прынятага парламентам рашэння намеснік міністра сацыяльнага забеспячэння Генадзь Сяргеевіч Бяспалаў у кулуарах парламента. — Ці пойдзе на гэта Вярхоўны Савет — вось якое ўзнікае пытанне. Бо гэта непазбежна адаб'ецца на сабекошце нашай прадукцыі і яе канкурэнтаздольнасці".

Сярод іншых пытанняў, што абмяркоўваліся ўчора, вылучу наступныя. Не прайшла прапанова Віктара Піскарова падняць на 25 працэнтаў пенсіі дзецям загінуўшых ці памёршых у турмах і лагерах рэпрэсіраваных грамадзян. Яна атрымала не так ужо і мала галасоў — 118, але, на думку Віктара Аляксеевіча, гэта ўсё роўна сведчыць аб пэўным неразуменні віны дзяржавы перад гэтай катэгорыяй людзей.

Прапанове групы дэпутатаў на чале з Нінай Салдатавай пашанцавала больш. Пасля гарачых спрэчак парламент вырашыў, што надалей пенсія інвалідам будзе налічвацца па каэфіцыенту з улікам двух гадоў працы пры больш высокім заробку. Хоць маленькі, але ўсё ж такі крок насустрач нашым шматпакутным інвалідам.

Пасля перапынку Вярхоўны Савет вярнуўся да пенсіённага закона.

## Прыём грамадзян вядзе М.Грыб

Іх засталося зусім няшмат, людзей, якія па абавязку службы ўдзельнічалі ў даследаваннях, аб мяркуемых выніках якіх стараліся тады не гаварыць, калі нагул пра іх ведалі. Напрыклад, як сказаў пенсіянер, інвалід Вялікай Айчыннай вайны Уладзімір Лабуц, з 44 тысяч чалавек, што ўдзельнічалі ў 1954 годзе ў тоцкіх вучэннях, засталося ў жывых цяпер каля тысячы. "Мы ўсе давалі падпіску на працягу 25 гадоў не выдаваць дзяржаўную тайну аб гэтых вучэннях. Многія страцілі здароўе, сталі інвалідамі. А што атрымалі ўзамен?" — з горыччу спытаў У.Лабуц.

Вырашэнне гэтай сітуацыі магчыма, як заўважыў М.Грыб, на падставе ўжо існуючага заканадаўства. Артыкул 16 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС" пашырае дзеянні закона на асоб, якія пацярпелі ад радыяцыйнага ўздзеяння на іншых атамных аб'ектах. І няма неабходнасці ў распрацоўцы дадатковага закона.

Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.

## Спасший одного человека — спас весь мир

***Сегодня в Минске, в 16.00, рядом с печально известным памятником "На яме" состоится традиционный митинг, пасвященный 53-й годовщине расстрела узников минского гетто.***

Вот уже более двухсот наших соотечественников отмечены Мемориалом Яд-Вашем за спасение евреев в годы второй мировой войны. Находящийся в Израиле Мемориал Яд-Вашем (в переводе с иврита — "Рука и Имя") составляет из воспоминаний очевидцев, архивных материалов и прочих документов своеобразную кладовую памяти о тех, кто погиб, кто спасся и кто спас. За подвиг человеколюбия и мужество спасителей награждают почетным званием Праведников Народов Мира, в их честь высаживается аллея памяти.

Позавчера медали Праведников, на которых выгравированы слова "Спасший одного человека — спас весь мир", получили Денис Иванович Галахов, представители семей Ольги Федоровны Сидоренко, Клавдии Андреевны Зинькевич, Леокадии Спивак, Анастасии Хурс, Эмилии Варакса. Принимая из рук посла Республики Израиль в Беларуси господина Элияху Валка памятные награды, минчанин Денис Иванович Галахов скромно заметил: "Мы просто выполняли свой человеческий долг".

Олег ГРУЗДИЛОВИЧ.

## Ён застаўся крылатым назаўсёды

За мужнасць і гераізм, праяўленыя пры ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, указам Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына званне Героя Расійскай Федэрацыі прысвоена нашаму земляку палкоўніку Васілю Аляксандравічу Вадалажскаму. Прысвоена пасмяротна.

Палкоўнік Вадалажскі стаў камандзірам групы цяжкіх верталётаў, якія завісалі ў тыя дні над разбураным рэактарам, падвяргаючыся ўздзеянню высокай радыяцыі. Яму прыслалі маладых лётчыкаў, таму што самыя вопытныя паспелі ўжо набраць максімальна дапушчальныя дозы апраменьвання. З кожным ён лятаў на заданне ў ядзернае пекла, ні адзін экіпаж не выпусціў у самастойны палёт. Калі і для яго закончыўся дазволены медыкамі тэрмін работы ў супернебяспечнай зоне, Вадалажскі ўсё ж застаўся са сваімі маладымі сябрамі-верталётчыкамі.

Гэта не прайшло так для адважнага чалавека, які ў ліку першых закрыў сабой ад яшчэ больш грознай бяды мільёны людзей у Беларусі, Расіі, на Украіне. Ён вярнуўся ў баявы строй на ранейшую пасаду, але ўжо не лятаў: ад вялікай дозы радыяцыі стан здароўя пагоршыўся. У 1992 годзе Васіля Аляксандравіча не стала. Пахаваны крылаты чалавек на ціхіх вясковых могілках пад Мінскам. Родныя, блізкія, баявыя сябры, як і ўсе выратаваныя ім людзі, захоўваюць аб ім вечную памяць.

Па ініцыятыве камітэта "Чарнобыль" Вярхоўны Савет Беларусі, якая не мае пакуль што ўласных узнагарод, выйшаў з хадайніцтвам да Прэзідэнта Расіі аб узнагароджанні Васіля Вадалажскага вышэйшым знакам узнагароды. Барыс Ельцын гэта хадайніцтва задаволіў, падпісаўшы ўказ за нумарам 149 ад 17 лютага 1995 года.

28 лютага пасол Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Ігар Сапрыкін ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў Залатую Зорку ўдаве Васіля Вадалажскага Ларысе Васільеўне. На цырымоніі прысутнічалі прадстаўнікі Вярхоўнага Савета Беларусі, беларускай грамадскасці, журналісты.

Леанід ТРАЦЭЎСКІ.

## Грошы на ахову прыроды

Сем мільярдаў рублёў будзе сканцэнтравана на рахунку новага пазабюджэтнага фонду аховы прыроды, створанага Віцебскім аблвыканкамам. Гэтыя сродкі пойдуць на канкрэтныя праграмы — будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, даследаванні басейнаў рэк Заходняя Дзвіна і Ушача, паветранай атмасферы, складанне кадастраў жывёльнага і расліннага свету, а таксама стварэнне дэндралагічных паркаў у Верхнядзвінску і пасёлку Лужасна Віцебскага раёна.

Белінфарм.

ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб расходах на падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. У адпаведнасці з артыкулам 12 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" зацвердзіць расходы на падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання ў памеры 68 мільярдаў рублёў, якія разлічаны зыходзячы з узроўню цэн і заработнай платы па стану на 1 студзеня 1995 года.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь зыходзячы з фактычнага памеру інфляцыі за кожны з месяцаў, якія засталіся да дня выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, правесці індэксацыю расходаў, прадугледжаных на падрыхтоўку і правядзенне выбараў артыкулам 1 гэтай пастановы.

3. Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у адпаведнасці з пунктам 5 артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" размеркаваць сродкі, выдзеленыя на падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

4. Зэканомленыя грашовыя сродкі, якія былі выдзелены на правядзенне адпаведных выбараў, у выпадку неабходнасці накіроўваюцца Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў на падрыхтоўку чарговых выбарчых кампаній.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.

22 лютага 1995 г., г.Мінск.
N 3604-XII

ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

1. Устанавіць з 1 сакавіка 1995 г. мінімальную заработную плату ў памеры 60 000 рублёў у якасці нарматыву, абавязковага для выканання ўсімі наймальнікамі.

2. Устанавіць з 1 сакавіка 1995 г. тарыфную стаўку першага разраду ў памеры 100 000 рублёў.

Дзеянне дадзенага пункта не распаўсюджваецца на суб'екты гаспадарання, дзе тарыфная стаўка першага разраду вышэй указанага ўзроўню.

3. Міністэрству працы ўвесці ў дзеянне з 1 сакавіка 1995 г. 23-разрадную Адзіную тарыфную сетку работнікаў Рэспублікі Беларусь з наступнымі міжразраднымі суадносінамі тарыфных каэфіцыентаў:

з 1-га па 3-і разрад - 1,30;
з 3-га па 8-ы разрад - 1,12;
з 8-га па 15-ы разрад - 1,06;
з 15-га па 23-і разрад - 1,05.

4. Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, забяспечыць пераразлік заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай дадзенай пастановай стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь.

5. Павялічыць з 1 сакавіка 1995 г. у два разы памер грашовай кампенсацыі на дзяцей, прадугледжанай пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. нумар 7 "Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян" (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., N 1, арт. 13), сем'ям, якія атрымліваюць штомесячную дзяржаўную дапамогу.

Захаваць устаноўленыя ўказанай пастановай штомесячныя грашовыя кампенсацыі непрацуючым пенсіянерам і пенсіянерам, якія працуюць у калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах; непрацуючым працаздольным грамадзянам, якія ажыццяўляюць догляд інваліда 1-й групы або састарэлага, што дасягнуў узросту 80 гадоў, а таксама догляд дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў; студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў (якія не атрымліваюць харчавання), у тым ліку тым, што знаходзяцца ў акадэмічным водпуску па медыцынскіх паказаннях; грамадзянам, якія атрымліваюць дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі (павышэнні кваліфікацыі) па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

6. Выплачваць з 1 сакавіка 1995 г. студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў за перыяд праходжання вытворчай (педагагічнай) і вучэбнай практыкі, звязанай з выездам з месцазнаходжання навучальнай установы, сутачныя ў памеры 10 працэнтаў мінімальнай заработнай платы за кожны дзень, у тым ліку за час знаходжання ў дарозе да месца практыкі і назад.

Студэнтам і навучэнцам, якія прыняты на аплатную работу на перыяд праходжання практыкі па-за месцам знаходжання навучальнай установы, сутачныя не выплачваюцца.

7. Міністэрству сацыяльнай абароны, Міністэрству абароны, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі з 1 сакавіка 1995 г. правесці пераразлік пенсій зыходзячы з новага памеру мінімальнай заработнай платы.

Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам сацыяльнай абароны перагледзець памеры дапамог, а кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў — памеры дзяржаўных стыпендый студэнтам і навучэнцам.

8. Павялічыць з 1 сакавіка 1995 г. у два разы назначаныя да ўказанай даты дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку (павышаюць кваліфікацыю) па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

9. Прызнаць страціўшымі сілу:

пункт 6 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 1992 г. нумар 410 "Аб сацыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян ва ўмовах далейшай лібералізацыі цэн" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992г., N 19, арт. 357);

пункт 7 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 кастрычніка 1992 г. нумар 658 "Аб сацыяльнай падтрымцы насельніцтва ў сувязі з прадаўжэннем росту рознічных цэн на тавары і паслугі" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 31, арт. 560);

пункт 2 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 1993 г. нумар 863 "Аб сацыяльнай падтрымцы насельніцтва ў сувязі з няспынным ростам цэн на тавары і тарыфаў на паслугі" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1993г., N 36, арт. 689);

пункт 5 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 сакавіка 1994 г. нумар 136 "Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., N 8, арт. 113);

пункт 1, абзац першы пункта 2, пункты 3 — 5 пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. нумар 7 "Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян" (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., N 1, арт. 13).

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.

28 лютага 1995 года.
г.Мінск.
N 106

У ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ

## "Мінскі кірмаш — жанчынам": мора сюрпрызаў перадсвяточнага шоу

Віктар ЧАРНУШЭНКА

Кажуць, першымі надыход вясны адчуваюць жанчыны. Гэта было бачна ўчора, калі тысячы прыгажунь, і не толькі сталічных, адкрылі свой кірмаш у якасці арганізатараў і гасцей грандыёзнага шоу.

Выставачны комплекс "Мінскэкспо" ледзьве ўмясціў усіх жадаючых пабываць на прэзентацыі міжнароднай выставы. Але не бяда — кірмаш працягнецца амаль тыдзень. У святочным прадстаўленні прымаюць удзел не толькі гандлёвыя фірмы — і гэта своеасаблівая рыса "Мінскага кірмашу", які на сённяшні дзень з'яўляецца самым буйным у нашай дзяржаве. Назаву толькі дзве лічбы: каля 120 розных фірм з усяго свету разгарнулі свае экспазіцыі на плошчы 10 тысяч квадратных метраў. Такога яшчэ не было!

Пад "капелюшом" выставачнага павільёна дэманструюцца мадэлі адзення і абутку, парфума і бытавая тэхніка, розныя прысмакі... Усё гэта можна не толькі бачыць на вітрынах, але і на топмадэлях агенцтваў "Тамара" і Сашы Варламава. А што спадабаецца — купляй па сходнай цане.

На маляўнічай сцэне распачалася вялікая культурная праграма. Пад апладысменты выступаюць вядомыя артысты і музыканты. Завіталі на кірмаш і ўладальнікі гран-пры заходнепалескага фестывалю песні "Етвызь'94". Хтосьці ў захапленні ад клуба амерыканскай аэробікі, іншым даспадобы парады візажыста...

... Зашумеў-загаманіў "Мінскі кірмаш", здзіўляючы ўсіх морам фарбаў, сюрпрызаў і жаночых усмешак.

